 

„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

№ 50 (94) БЕЛАСТОК, 15 СНЕЖНЯ 1957 г. ГОД II

## Індустрыялізацыя Польшчы

У нашай краіне праводзіцца шырокая індустрыялізацыя адсталых, у мінулым аграрных абласцей, такіх, як Люблінскае, Жэшоўскае, Беластоцкае і іншых ваяводстваў, размешчаных на ўсход ад Віслы.

У апошнія гады ў гэтых ваяводствах пабудавана дзесяткі буйных прамысловых прадпрыемстваў, якія выпускаюць самую рознастайную прадукцыю. Прамысловая вытворчасць у гарадах Люблінскага, Жэшоўскага і Беластоцкага ваяводстваў узрасла ў параўнанні з даваенным перыядам амаль у шэсць разоў.

Асабліва вялікіх поспехаў у развіцці прамысловасці дасягнула Люблінскае ваяводства. На ўскраіне Любліна вырас буйны аўтамабільны завод, які выпускае побач з грузавымі аўтамабілямі і сельскагаспадарчыя машыны. У горадзе Красніку ўступіў у строй новы шарыкападшыпнікавы завод. У ваяводстве пабудавана таксама два буйныя цэментныя заводы і рад прадпрыемстваў лёгкай і харчавой прамысловасці. Звыш 300 тысяч чалавек прыйшло працаваць на новыя прамысловыя прадпрыемствы, пабудаваныя ў ваяводстве ў пасляваенныя гады.

Многа заводаў і фабрык вырасла ў Беластоцкім ваяводстве. Тут пабудаваны механічны завод і дзве шарсцяныя фабрыкі. Новыя тэкстыльныя камбінаты ў Замброве і Фасах ужо даюць прадукцыю. У Чорнай Вёсцы пабудавана буйнейшы ў Польшчы дрэваапрацоўчы камбінат. Уступіла ў строй буйная электрастанцыя ў Астролэнцы, якая дае прамысловы ток прадпрыемствам Беластоцкага і Варшаўскага ваяводстваў.

## Гарадоцкі бацькоўскі камітэт

Добра працуе бацькоўскі камітэт у Гарадку. Часта адбываюцца пасяджэнні прэзідыума камітэта з настаўнікамі. На пасяджэннях разважаюцца ўсе справы школы, не памінаючы вынікаў навучання і паводзін вучняў. Члены прэзідыума бываюць нават на лекцыях, прыслухоўваюцца спосабу навучання і назіраюць за паводзінамі і адносінамі вучняў да настаўнікаў.

Бацькоўскі камітэт выстараўся грошы на пабудову новай школы. І так прызначана на гэтыя патрэбы 510 тыс. зл. У 1958 г. гарадоцкія дзеці будуць вучыцца ў новай школе. Апошнім часам бацькоўскі камітэт выстараўся 7 тысяч зл., за якія куплена ўжо адзенне для бедных дзяцей. Шмат чаго можна было-б напісаць яшчэ аб бацькоўскім камітэце ў Гарадку.

## Праект закону аб грамадскім фондзе

У сучасны момант апрацоўваецца праект закону аб грамадскім фондзе. Згодна з праектам закону гэты фонд будзе створаны з датагачасных грашовых павіннасцей (так званага шарварку) вясковага насельніцтва і аграмаджаных прадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў грамадах.

Грамадскі фонд будзе выкарыстаны для мясцовых патрэб, а ў прыватнасці, для пабудовы і ўтрымання дарог, мастоў, комунальнага абсталявання і г. д. Пасля прыняцця новага закону шарварак не будзе больш абавязваць.

## Беларускія канцэрты

### У НАРАЎЦЫ

У нядзелю, 8 снежня г. г. Беларускі народны калектыў песні і танца з Беластока наведаў Нараўку. Ужо на многа перад канцэртам зала будынка кіно запоўнілася масай народу. Зацікаўленне было вельмі вялікае, аб чым сведчыць той факт, што прыйшла нават моладзь з навакольных вёсак. Не паспелі адкрыцца шторы, як публічнасць бурнымі апладысментамі стала вітаць устаўлены на сцэне хор. Кожную песню, кожны танец узнагароджвалі гледачы гучнымі воплескамі. Паміж гледачамі, а ўдзельнікамі калектыву, ад пачатку канцэрта ўзніклі надзвычай цёплыя суадносіны і нейк неахвотна было раставацца з гэтымі ветлівымі людзьмі.

Варта падкрэсліць, што асабліва моцна спадабаліся беларускія песні і танцы. Гэта сведчыць аб тым, што насельніцтва Нараўкі любіць роднае слова. Канцэрт агледзела каля 600 асоб.

Пасля канцэрта, у асабістай гутарцы, дзяўчаты і юнакі сказалі, што яны прыйшлі на канцэрт не дзеля таго, што гэта рэдкасць у Нараўцы, а дзеля таго, што гэта беларускі калектыў прыехаў.

### ...У НАРВЕ

У тую-ж самую нядзелю ў Нарве беларускі драмгурток з Беластока даў пастаноўку двух п'ес: «Прымакі» Янкі Купалы і невялікую п'есу «Пярэстая Красуля».

На пастаноўку прыбыла больш 300 асоб. Праз увесь час людзі заносіліся ад смеху. З твараў публічнасці і з размовы, відаць было, што пастаноўка вельмі спадабалася.

### ...У КРЫНКАХ

Колькі-ж было радасці, калі жыхары Крынак (Сакольскі павет) даведаліся, што на нядзелю прыедзе да гэтага мястэчка з сваімі пастаноўкамі Беларускі драматычны гурток з Гарадка. Ужо ў суботу (7.XII.) большасць білетаў была выкуплена.

Нядзельным вечарам перад будынкам мясцовага кіно — у якім выступалі Гарадоцкія самадзейныя артысты — сабраўся натоўп народу. Касір Грыша Гарбуз меў літаральна поўныя рукі работы — перад самым выступленнем ужо нестала білетаў. Вялікая зала кіно была забіткавана да апошніх месц. Спектакль глядзела каля 400 асоб.

На сцэне ставіліся дзве беларускія камедыі — «Суседка» і «Мікітаў лапаць». Разпо-раз словы артыстаў - аматараў заглушвалі выбухі смеху. Трэба сказаць, што Гарадоцкія артысты гралі на ўзроўні - натуральна і непрымушана.

Прымаўка Яўменя: — «Трасца табе ў бок» — (з камедыі «Мікітаў лапаць») — хіба ўжо застанецца ў Крынках назаўсёды.

(ся).



*«Бярозка» не томіць нас доўгімі карагодамі.*

*Фото — І. Рыбінскі*

## „Бярозка" у Беластоку



*Салістка ансамбля «Бярозка» — Міра Кальцова.*

*Ансамбль «Бярозка» вядомы не толькі ў Совецкім Саюзе. Ён, можна сказаць, вядомы амаль усяму свету. Польшчу ансамбль «Бярозка» наведаў ужо другі раз. Дзе найлепш і найцяплей іх прымалі? Марыя Клеменцева — балетмайстар і педагог калектыву не ўмее на гэта адказаць, бо ўсюды іх сардэчна прымалі.*

*Беластоцкая публічнасць бачыла ўжо многа замежных мастацкіх калектываў. Былі нават досыць экзатычныя аргенцінцы. Аднак ні адзін так не ачараваў і не захапіў, як «Бярозка». Гэта сапраўды народны і сапраўды рускі калектыў.*

*«Бярозка» не томіць нас доўгімі карагодамі. Яна ўсё мяняецца: раз вясенняя — квітнее свежай зялёнасцю вясны і лета, то чырванее полымям восені, то бялее снежнай зімой, а пры гэтым усім, ачароўвае свежай маладосцю і простымі, а так высокамастацка апрацаванымі танцамі.*

*Насельніцтва Беластока і аколіц з вялікім зацікаўленнем і хваляваннем глядзела выступленні «Бярозкі», якія адбыліся ў Беластоку ад 4 да 6 снежня. «Бярозка» па просьбе грамадскасці Беластока дала замест двух планаваных — чатыры выступленні.*

*Аб поспеху совецкага калектыву сведчыць факт, што яшчэ да прыезду «Бярозкі» у Беласток, было 16 тысяч запатрабаванняў на білеты. А білетаў планаваных было ўсяго... 1.400.*

*— Тэкст і фото — І Рыбінскі*

 

З настаўніцкай нівы

# Каб рады нарадовыя больш клапаціліся справамі асветы

Кожны хто бліжэй углядаецца ў плынь грамадскага жыцця, можа заўважыць, што не ўсіх людзей аднолькава цікавяць адны і тыя самыя справы. Ёсць людзі, каторыя ўсю сваю ўвагу звяртаюць на справы сучаснай мажнароднай палітыкі, другія зацікаўлены праблемамі сучаснай гаспадаркі, яшчэ іншыя спортам і т. п.

Вельмі дрэнна, калі сярод нашых людзей з'яўляюцца такія, каторыя на асвету глядзяць як на штось зусім непатрэбнае. Але і тыя, каторыя зацікаўлены гэтай праблемай не заўсёды свядомыя існавання крыніц поспехаў і недахопаў у працы нашых школ. Калі школа працуе дрэнна, тлумачыцца гэта дрэннай працай настаўніка. Не шукаюць акрамя гэтага іншых аб'ектыўных прычын, якія таксама маюць значны ўплыў на ўзровень працы школы.

Такія справы, як памяшканне, тэмпература памяшкання, санітарныя ўмовы працы і т. п. цікавяць толькі абмежаваную колькасць людзей. А справы гэтыя ў школе маюць велізарнае значэнне. У залежнасці ад таго, як развязаны гэтыя праблемы, так укладаюцца справы навучання нашых дзяцей. Забяспечванне нашых школ у матэрыяльныя сродкі маюць абавязак нарадовыя рады.

Грамадскія рады пры рэалізаванні сваіх бюджэтаў асноўную іх частку, бо прыблізна каля 35 прац. выдаюць на патрэбы асветы. Грамадскія грошы толькі тады будуць адпаведна выкарыстаны, калі людзі, якія імі гаспадараць будуць здаваць сабе справу з карыснасці гэтых выдаткаў, калі ў грамадскіх радах і іншых будзе браць актыўны ўдзел асоба непасрэдна зацікаўленая — у тым выпадку настаўнік. І таму ўдзел настаўнікаў у радах нарадовых — гэта не толькі справа самых настаўнікаў, але і ўсіх тых, каму дарагімі з'яўляюцца справы ўласных дзяцей.

Задачы рад нарадовых у галіне развіцця асветы і культуры з'яўляюцца больш шырокімі, чым вышэй акрэслена. Праца іх выходзіць з рамаў самага расходвання матэрыяльных сродкаў на патрэбы школ. Так напрыклад, адной з такіх прац, будзе актыўнае змаганне за ўлучэнне ўсіх дзяцей школьнага ўзросту да карыстання з аднаго з правоў нашай канстытуцыі, якім з'яўляецца права да асветы.

Здзяйсненне гэтых задач будзе магчыма толькі пры актыўным удзеле ў радах нарадовых, як і ў іх камісіях, самых настаўнікаў. У той час, калі набліжаецца дзень выбараў у рады нарадовыя, трэба абавязкова аб гэтым памятаць. Дзень 2 лютага не за гарамі.

Ф. БЕРНІКОВІЧ.



*5 лістапада гэтага года ў сталіцы Беларусі адкрыты Дзяржаўны мастацкі музей БССР. У яго дзесяці прасторных залах і галерэі зараз размешчаны 2 экспазіцыі: выстаўка твораў беларускіх мастакоў, прысвечаная 40-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі (жывапіс, графіка, скульптура), і выстаўка твораў жывапісу, пачынаючы з XVI стагоддзя і да нашых дзён.*

*На здымку: новы будынак Дзяржаўнага мастацкага музея БССР на вуліцы Леніна ў Мінску.*

*Фота — А. Стахно.*

## У Гайнаўцы будзе „Клуб моладзі“

У суботу 23 лістапада адбылася нарада Павятовага камітэта ЗМС. На парадку дня стаяла вельмі важнае пытанне. Як прыцягнуць моладзь да культурнага жыцця? Што зрабіць, каб моладзь не нудзілася доўгімі, зімовымі вечарамі, каб рэстаран з гарэлкай не быў адзіным мейсцам забавы.

Усе прышлі да аднаго вываду — арганізаваць у Гайнаўцы «Клуб моладзі». Развярнуліся гарачыя спрэчкі над тым, які гэта мае быць клуб. Пададзена шмат прапаноў і цікавых думак:

1. Перш за ўсё ў клубе павінны быць усе польскія і савецкія часопісы і газеты, а таксама важнейшыя часопісы заходніх краін.

2 Арганізаваць чытанне лекцый, як на палітычна - ідэалагічныя так і на папулярна - навуковыя тэмы. Для таго, каб лекцыі такія карысталіся большай папулярнасцю, — трэба будзе запрашаць аўтарытэтных выкладчыкаў.

3. Арганізаваць у Клубе курс мовы эсперанто.

4. Улічваючы той факт, што на Гайнаўшчыне жывуць беларусы, трэба арганізаваць лекцыі і гутаркі аб жыцці і гісторыі Беларусі і запрашаць таксама людзей добра азнаёмленых з гэтымі тэмамі.

5. Арганізаваць пры Клубе гурток самадзейнасці, а таксама навуку ігры на музыкальных інструментах.

6. Арганізаваць навучанне танца, як класічнага, так і сучаснага.

7. Арганізаваць групы брыджыстаў, шахматыстаў і іншых гульняў і часцей наладжваць спаборніцтвы для павышэння іх майстэрства.

8. Каб прыдаць Клубу больш сучасны характар, абавязкова трэба арганізаваць падаванне кавы.

9. Паклікаць арганізацыйны камітэт Клуба.

На членаў гэтага камітэта вызначана найбольш аўтарытэтных і паважаных людзей гайнаўскага грамадства. Большасць членаў, якія ўвайшлі ў Камітэт — гэта выкладчыкі школ. У бліжэйшых днях адбудзецца пасяджэнне членаў арганізацыйнага камітэта, на якім выкажуць свае думкі, ці яны згодны з такім першапачатковым праектам, што да арганізавання Клуба і ўнясуць свае папраўкі і заўвагі адносна характару працы клуба.

Як відаць ініцыятыва моладзі зусім нядрэнная і актуальная. Доўгімі зімовымі вечарамі моладзь будзе магла культурна праводзіць час.

Але адкуль узяць сродкі на гэта. Галоўнае, — як кажуць, — гэта шчырыя жаданні, а тады ўсё зробіцца. Таксама і тут. Сродкі на газеты і часопісы прызначыў Ваяводскі камітэт ЗМС.

Каб здабыць сродкі на мэблю, аплату дакладчыкаў і прыбіральшчыцы, Камітэт пастанавіў звярнуцца з просьбай аб дапамогу да грамадскасці Гайнаўкі. Мала таго, Павятовы камітэт ЗМС пастанавіў сам здабываць сродкі — арганізаваць забавы, з якіх даход пойдзе на развіццё клуба, на яго ўтрыманне.

Мне здаецца, што грамадскасць Гайнаўкі акажа поўнае зразуменне і актыўна падтрымае цэнную ініцыятыву моладзі.

Член ПК ЗМС
у Гайнаўцы
М. ТАРАСЕВІЧ

## Як жыве моладзь у Новай Волі

Вёска Новая Воля ёсць адной з большых вёсак у нашай аколіцы. Лічыць яна больш, як 160 дамоў. Усім вядома, што ў такой вёсцы ёсць вельмі многа маладых людзей, якія любяць жыць па-новаму. Аднак моладзь Новай Волі не мае магчымасцей на гэта. Ужо колькі часу будуецца клуб і ўсё толькі на паперках.

Міма цяжкіх матэрыяльных умоў моладзь не апускае бязрадна рук. Існуе тут мастацкі гурток. Моладзь, якая належыць да яго, арганізуе і прыгатаўляе п'есы «Міхалка» і «Мікітаў лапаць», якія выстаўлены будуць на Каляды.

Я. С.

## Яноўшчына будзе мець школу

У мінулым годзе ў Яноўшчыне здарылася няшчасце — 12 сакавіка згарэла драўляная школа. І куды-ж тут мелі хадзіць вучыцца дзеці? Прытым трэба сказаць, што тутэйшая школа налічвае ні менш і не больш, а 115 вучняў. Але яноўшчане не належаць да бязрадных! Ужо ў бягучым годзе пры дапамозе Павятовага Аддзела асветы ў Саколцы распачалі будаваць у сваёй вёсцы новую прыгожую, мураваную школу.

Уласнай ініцыятывай зрабілі нівеляцыю школьнага пляца, вывезлі рэшткі руін па згарэлай школе, навазілі 110 м³ камення, 300 м³ пяску, 25 м³ гліны. Усе добраахвотна дапамагалі майстрам пры ўсіх нефаховых работах.

На наступны год іх дзеткі будуць вучыцца ў новай, куды лепшай, школе.

(ся)

### Найбольшы ў свеце батанічны сад

Непадалёк вялікага горада Кантон у поўднёвым Кітаі будуецца найбольшы ў свеце батанічны сад — аб плошчы 1.200 гектараў. Гэты сад будзе служыць для навуковых доследаў і гадоўлі трапічных раслін.

ты аднаго афіцэра адказнага за картатэку агентаў у гестапа. Гэты афіцэр прагледзеўшы ўсе планы сцвердзіў, што апошнім часам у аколіцы Чаромхі не накіроўвана ніякіх шпікоў. З гестапа пазванілі ў Чаромху загадваючы неадкладна арыштаваць падазроных і адставіць іх у Бельск.

Міллер быў пераканаы, што мае дачыненне з партызанамі. Хату Сідарукоў пастанавіў трымаць у абкружэнні да раніцы, разлічваючы на тое, што хтосьці мусіць прысці да іх на кантакт.

У хатцы апрача Валодзі і Шуркі знаходзілася яшчэ жонка Сідарука, Вольга, двое дзяцей і старая бабуля. Было ўжо дзесь каля 5-ці гадзін раніцы, калі нехта гвалтоўна пастукаўся ў акно. Валодзя і Шурка хутка ўсхапіліся з саломы, устала гаспадыня і адхіліўшы заслону глянула праз шыбу на панадворак. За акном аж раілася ад жандараў.

— Уставайце, адчыняйце — хутка! — роў за акном нейкі фрыц. У вас начуюць бандыты.

Гаспадыня пачала тлумачыць, што ў яе нікога няма. Але гэта не памагала, у дзверы пачалі біць прыкладамі вінтовак. Тады адышла яна ад акна, запаліла лямпу і села пры дзецях на ложку.

Шурка хутка схаваў за печку пісталет, Валодзя свой пісталет паспеў кінуць у споднюю кішэню пінжака. З трэскам выламаліся дзверы і ў кухню ўвалілася хіба з дзесяць жандараў.

— Рукі ўгору! — закрычаў камендант з Орлі.

Усё гэта адбывалася ў некалькіх секундах. Партызаны паднеслі рукі ўгору. Шурка стаяў першы. Валодзя на крок далей. Камендант Міллер пачаў абмацваць адзенне Шуркі. Валодзя адчуваў, як пад левым бокам пінжака здрадніцка цягнуў пісталет аж абвісала пала. Памалу апускаў левую руку ўніз, каб локцем прытрымаць пінжак. Адзін з жандараў глянуўшы на Валодзю заўважыў абвіслую левую палу пінжака і выкрыкнуў на цэлае горла:

— Гэрр камендант, гэты другі бандыт мае ў кішэні зброю!

Міллер быццам той тыгр падскочыў да Валодзі, два разы ўдэрыў яго па твары і пасля пачаў біць кулаком у грудзі. У гэты момант сталася тое, аб чым мабыць секунду таму назад не падумаў ані Валодзя, ані сам камендант Міллер і яго служкі. Стукнуты кулаком у грудзі Валодзя адляцеў назад, адапхнуўся нагой ад сцяны, схапіў Міллера за пісталет адпіхаючы яго налева. Стрэл немца з пісталета прайшоў убок. Калі пісталет знайшоўся ў руках Валодзі — гэтага ён і сам не помніў.

Міллеру зажарыў у грудзі тры кулі. Гітлеравец, як тая калода, паваліўся на падлогу. Рэшта стрэлаў пасыпалася на горбу жандараў. Узнікла страшная паніка, пачуўся лямант параненых, адзін цераз другога ўцякалі на панадворак.

Валодзя не чуў і не памятаў нічога, увесь разгарэўся нечаканай барацьбой. Кожны мускул дрыжэў ад напружання, была гэта сутычка на смерць і жыццё. Цераз перакідаючыеся па зямлі целы Валодзька кінуўся ў сенцы на бягу змяняючы ў пісталеце пустую патронную каробку. Кулі ляцелі ў сцены хаты. Жандары ад бяссільнай злосці стралялі наўпапад. Ранена ў нагу Вольгу Сідарук.

На панадворак нельга было выйсці, чуўся тупат ног бегаючых жандараў. Жонка Сідарука лямантавала ад болю і туліла да сябе расплаканыя дзеці. Запаліла лямпу.

Валодзя затаіўныся ў сенцах за кадушкай капусты паволі локцем зачыняў дзверы не зводзячы вачэй з панадворка. Раптам аслепліваючы бліск і выбух кінуў Валодзю на зямлю. На некалькі секунд страціў прытомнасць. Калі схапіўся — пачуў, што з левай шчакі плыве кроў, страшна шумела ў галаве і згіналіся ногі. Пальцамі выняў са скроні сукаты асколак. Адзін з раненых немцаў, што ляжаў у кухні — кінуў гранату. На шчасце была гэта яйкападобная граната — інакш магло-б скончыцца вельмі кепска.

— Як выйсці на панадворак і далей?—думкі маланкай лёталі ў галаве Валодзькі. А калі-б так пераадзецца за жандара? Але як раздзець трупа пад такім агнём. Была яшчэ ноч. Хутка пераскочыў з сенцаў у хату, засадзіў за рамень пісталет і пахіліўся над разваленым пад сцяной жандарам.

Калі пачаў расшпіляць плашч, гітлеравец рэшткамі сіл схапіў Валодзьку за горла, другой рукою стараўся стрэліць яму проста ў лоб. Валодзя прыціснуў немца да падлогі, наваліўся рукою на глотку, а другой намагаўся вырваць яму пісталет. Пачалі качацца па падлозе. Гэта было страшнае. Валяліся ў лужах крыві і па целах пабітых. Адзін другога абліваў уласнай крывёю, узаемна стараліся здушыць адзін аднаго, забіць. Нечалавечым намаганнем волі Валодзя вырваў з рукі немца пісталет і нямогучы зблізку страляць, шпарнуў жандара з усіх сіл ручкай пісталета ў лоб. Жандар раскінуў рукі. З двума пісталетамі Валодзя кінуўся ў акно і выскачыў на панадворак. Недзе непадалёк у полі чуліся стрэлы і відаць было чалавечыя сілуэты. Пераскочыўшы цераз плот, Валодзя знік у цемені ночы. Быў вольны. Колькі засталося пабітых жандараў у хаце Сідарука — гэтага не ведаў.

*(Працяг у наступным нумары)*

Славутыя гістарычныя будоўлі свету

# Вялікая Кітайская сцяна



У свеце ёсць дзве найвялікшыя і наймагутнейшыя будоўлі: — гэта егіпецкія піраміды і Вялікая Кітайская сцяна.

Аб Вялікай Кітайскай сцяне вядома толькі тое, што пабудавана яе ў абаронных мэтах. Аж да нашых часоў ніхто не праводзіў тут ніякіх архітэктанічных доследаў — толькі тое, што збольшага абазначана яе на геаграфічнай карце.

У гэтай будоўлі ёсць многа архітэктанічных форм Егіпта, Асірыі, а нават і Грэцыі.

Вялікую Кітайскую сцяну распачата будаваць у царстваванне дынастыі Ужой (1122—247 г. д. н. э.) — дакладная дата невядомая. Пачатнова будагана яе толькі ў некаторых мейсцах, якія мелі большае стратэгічнае значэнне. У 221 годзе д. н. э. імператар Цынь-Шу-хуандзі аб'едноўваючы паасобныя княствы ў адну магутную дзяржаву, пастанавіў на сваіх поўночных граніцах пабудаваць суцэлую вялізную крэпасць, злучаючы існуючыя ўжо фрагменты абаронных сцен.

Будаўнічыя работы адбываліся пад наглядам і сіламі 300.000 жаўнераў кітайскай арміі — не лічачы дзесяткаў тысяч ваенных нявольнікаў. Гэтыя работы вяліся на працягу 10 год — ад заліва Пэчылі аж па горад Сучоў, на захадзе краіны. Праходзіць яна па горных хрыбтах і цяснінах даўжынёю каля 5.000 кіламетраў. Першапачатковая будоўля гэтай сцяны была вельмі прымітыўнай — складалася з вялізных каменных пліт павязаных глінай. У такім стане прастаяла 1.500 год.

Калі аднак у 1368 годзе пачала царстваваць дынастыя Мін, — а быў гэта перыяд войнаў, — зноў распачата работы пры сцяне, узмацняючы яе; надаючы ёй характар і формы, якія мае аж па сённяшні дзень. Такая своеасаблівая перабудова і рамонт былі закончаны на пачатку XVI ст. Таму маем права лічыць, што архітэктура гэтай будоўлі паходзіць з яшчэ так недалёкай эпохі.

У выніку такой генеральнай дабудовы, перабудовы і рамонту, на адзін метр падвышана яе. У сучасны момант яе вышыня даходзіць да 6,6 м; шырыня ніжняй часткі — 6,5 м і верхняй — 5,5 м. Па аздобленым вялізнымі карнізамі вярху Вялікай Кітайскай сцяны ідзе дарога, якую цяпер амаль невыкарыстоўваецца.

На ўсёй даўжыні будоўлі што 120—150 метраў размешчана абаронныя вежы і ў адлегласці што 10 кіламетраў пабудавана назіральныя маякі—вежы, на якіх у выпадку варожай атакі запальвана вогнішчы ў знак трывогі. У некалькіх стратэгічна важнейшых пунктах пабудавана вялікія крэпасці ў якіх заўсёды знаходзілася часамі некалькі тысяч войска.

Аб велічы гэтай будоўлі няхай сведчыць некалькі лічбаў. Прыблізна аблічана, што ўкладзена сюды звыш 150 мільёнаў кубічных метраў зямлі і 50 мільёнаў кубічных метраў цэглы і камення. Аблічана, што спатрэбілася на гэта каля 600 мільёнаў працадзён. (Пры гэтым не лічыцца фундаментаў, якія складаюць 1/3 агульнай масы Вялікай Кітайскай сцяны).

Наогул немажлівым ёсць падлічыць і адлюстраваць усю веліч працы, якую трэба было ўкласці, каб даставіць сюды будаўнічы матэрыял, як камень і цэгла, што неаднаразова знаходзіліся ў некалькіх сот кіламетрах ад мейсц будовы. А трэба-ж было перадольваць высокія горы і скалістыя цясніны!

У старых хроніках успамінаецца, што зімамі будавана ледзяныя дарогі, па якіх лягчэй было сцягваць на гару каменні, або апускаць іх уніз. Як насільшчыкаў цэглы і каменняў ужывана тады козы, прызвычаеныя да горных раёнаў. На кожны рог прывязвана па адной цэглі ці камені і цэлыя стады такіх коз-насільшчыкаў накіроўвана ў горныя раёны будовы. На раўнінах падобна выкарыстоўваліся іншыя звяры, як каровы і г. д.

У сучасны момант Вялікая Кітайская сцяна лічыцца перлай нацыянальнай культуры Кітая, праводзяцца інтэнсіўныя працы над забеспячэннем яе ад далейшага знішчэння.

Стратэгічнае і абароннае значэнне страціла яна яшчэ зусім нядаўна — бо падчас вайны з Японіяй у 1937 годзе. Тады склалася песня кітайскіх добраахвотнікаў, якую пасля спяваў увесь народ. — «З нашых цел і нашай крыві пабудуем новую вялікую сцяну». — Гэту песню потым прызнана нацыянальным гімнам Кітайскай Народнай Рэспублікі.

Апрацаваў паводле С. Расальскага («Ведза і жыцe» №10) — *С. Яновіч*

# Сельскагаспадарчыя парады

## Варта ведаць

Клапатлівы гаспадар яшчэ ў першай палове зімы падлічыць сабе, колькі пашы патрэбна яму для таго, каб добра пракарміць быдла, у другой палове зімы.

На другую палову зімы г. зн. ад пачатку студзеня трэба нарыхтаваць толькі пашы, каб не бракла на прадвесні г. зн. хапіла да паловы мая, на 135 дні. Таму радзім ужо цяпер падлічыць свае запасы, а калі ёсць мала, пастарацца дакупіць.

Карове, якая дае 10 літраў малака на гэтыя 135 дзён трэба падрыхтаваць каля 270 кілограмаў жытняга або пшанічнага вотруб'я разлічваючы па два кілограмы на дзень, каля 20 цэнтнераў буракоў — па 15 кілограмаў на дзень, каля 8 цэнтнераў сена — па 6 кілограмаў на дзень, каля 3 цэнтнераў яравой саломы на начную закладку і каля 5 цэнтнераў саломы з азіміны — на пасцёл. Калі кормім карову бульбамі — то даем на палову менш чым буракоў.

На пракармленне ялавой каровы трэба не больш як палову ўсёй гэтай пашы, а на пракармленне вала — тры чэцьверці. Калі гаспадар бачыць, што не хапае яму пашы — то павінен пазбыцца адну штуку быдла, каб рэшту добра пракарміць, а не поўгалоднай трымаць жывёліну. Колькі трэба пашы для іншай жывёлы, вы знойдзеце інфармацыі ў Сельгаспадарчым каляндары на 1958 г. (Kalendarz kółek rolniczych na 1958 r. Cena zł. 15).

Бывае і так. Падчас вялікіх маразоў, калі неглыбокі пограб, або дрэнна прыкрытая яма, буракі ці бульба зверху прымерзнуць. Дзеля таго, як толькі крыху пацяплее, трэба абавязкова адкінуць прыкрыццё з саломы і калі акажацца, што бульба прымерзнутая — то нельга чакаць далей, аж пакуль стане гніць, трэба неадкладна перабраць яе, а здаровую прыкрыць свежай саломай і роўна засыпаць зямлёю. Калі зямля змерзнуўшая — тады трэба прыкрыць яшчэ на верх гноем, саломаю, або лісцём.

Прымерзнутую бульбу трэба як найхутчэй скарміць быдлам. Трэба толькі памятаць, што такой пашы нельга многа даваць цельным каровам, бо могуць вельмі пашкодзіць. Калі многа бульбы змерзла, тады (пры цёплай пагодзе) рассыпаем тонка па гары, або па кляпіску ў стадоле, каб прасохлі. Можна таксама сушыць бульбу ў хлябовай печы. Сушаная бульба вельмі карысная, толькі перад карменнем трэба яе абавязкова парыць.

Буракі нельга гэтак сушыць, трэба іх перш парэзаць дробна і можна таксама падрыхтаваць з іх сіласы разам з бульбай. Закладаецца іх у чыстую яму і прысыпаецца мякінай потым дзяўбецца рыдлёўкай або сякачкай, прысыпаецца быдлячай соллю і допчацца нагамі. На гэта яшчэ сыплецца буракі, сечку, соль і так аднова. Усё прыкрываецца зверху саломай і грубым слоем зямлі, каб пад яе цяжарам буракі добра зляжаліся. Такім спосабам праз месяц часу сілас з буракоў будзе гатовы, буракі не гніюць і тады з'яўляюцца добрым кормам для быдла.

Інж. Л. ВАЙТОВІЧ

# Куток гаспадыні

## Рулет з макам

У цёплым малацэ развесці дрожджы, усыпаць палавіну мукі і паставіць апару. Калі апара павялічыцца ўдвая, пакласці соль і жаўткі яйка, расцёртыя дабяла з цукрам, размяшаць, усыпаць астатнюю муку і замясіць цеста. Затым дадаць растопленае масла, або маргарын, цеста вымесіць так, каб яно адставала ад сценак пасуды. Пасля гэтага цеста злёгку пасыпаць мукой, накрыць і паставіць у цёплае месца, каб яно падышло.

Асобна прыгатаваць мак. Пакласці яго ў каструлю, заліць кіпятком, накрыць крышкай і даць пастаяць 30—40 мінут. Затым зліць усю ваду мак злёгку адціснуць і расцерці яго, дадаючы паступова мёд, а затым і цукар, каб атрымалася маса, якая нагадвала-б густое павідла.

Гатовае цеста раскатаць таўшчынёй у адзін сантыметр, пакласці на цеста слой падрыхтаванага маку, разраўняць яго і скруціць цеста ў трубку. Пасля гэтага перакласці рулет на ліст, змазаны маслам, і паставіць у цёплае месца, каб ён падышоў. Затым змазаць рулет яйкам і паставіць у гарачую духоўку на 20 — 30 мінут.

На 1 кілограм мукі 1,5 шклянкі малака, 5 яек, шклянку цукру, 100—125 грамаў масла або маргарыну, 3/4 чайнай лыжкі солі, 30 грамаў дрожджаў. Для начынкі на 300 грамаў маку 150 грамаў мёду і 3,4 шклянкі цукру.

# Успомнім Янку Лучыну

(Працяг са стар. 3)

Гэтая паэма ўвайшла ў невялічкі зборнік твораў Янкі Лучыны на беларускай мове «Вязанка» (1891), які складаўся з адзінаццаці вершаў, напісаных на вострыя соцыяльныя тэмы. Варта ўспомніць, што паэма спецыяльна перакладалася на польскую мову для варшаўскага часопіса «Życie», дзе ўпершыню была надрукавана ў канцы васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. У часопісе «Życie» змяшчаліся таксама польскія творы паэта: «Паляўнічыя замалёўкі» і «Лірычныя вершы». Пяру Лучыны належаць тры эпічныя творы на польскай мове: «Андрэй», «Гануся» і «Віялета». У 1898 годзе выйшаў томік яго польскіх твораў «Poezje». Нягледзячы на параўнальна значную колькасць твораў на польскай мове, Янка Лучына не пакінуў колькі-небудзь прыкметнага следу ў гісторыі польскай літаратуры.

Паэт таксама пісаў вершы на рускай мове. Яны час-ад-часу з'яўляліся на старонках такіх тагачасных выданняў, як «Минский Листок» і «Северо-Западный календарь» А. Слупскага. У адным з рускіх вершаў, змешчаных у першым нумары газеты «Мински Листок» (1886), Лучына вызначаў напрамак сваёй паэтычнай дзейнасці:

*«Служить стране, глухой, забитой,*
*Где мрак невежества царит,*
*В лачуге, где, соломой крытой,*
*Мужик печально дни влачит.*

У гэтым-жа самым нумары быў змешчаны верш «Не ради славы иль расчета» — першы друкаваны твор паэта на рускай мове. Вершам Лучыны «Родной Белоруссии», напісаным на рускай мове адкрывалася выданне «Северо-Западного календаря» на 1893 год.

Дзякуючы таму, што Лучына некаторыя свае творы пісаў на польскай і рускай мовах і змяшчаў іх у польскім і рускім друку, яны не загінулі. Калі-б гэтыя творы пісаліся на беларускай мове, дык напэўна частка з іх не ўбачыла свету. У той час дзейнічаў строгі закон аб забароне выдання беларускіх кніжак у Расіі. Дарэчы ўспомнім, што «Вязанка» прадстаўлялася для царскай цэнзуры, як зборнік твораў, напісаных «на балгарскай мове».

Тагачасная дэмакратычная літаратурная крытыка давала станоўчую ацэнку творчасці Янкі Лучыны. На ўвагу заслугоўвае асабліва голас вядомай польскай паэтэсы Марыі Канапніцкай (1840—1910), якая ў адным са сваіх лістоў высока ацэньвала рэалізм і дэмакратычную мэтанакіраванасць паэтычнай творчасці беларускага паэта. Таксама спрыяльна да паэзіі Лучыны ставіўся Іларыён Свяціцкі ў сваёй брашуры «Адраджэнне беларускай літаратуры», выдадзенай на ўкраінскай мове ў 1908 годзе, у Львове. Маем тут рад слушных сцвярджэнняў адносна характару творчасці беларускага паэта. Аўтар, між іншым, піша, што творчасць Лучыны *«дае верную карціну эканамічна - палітычнага становішча народа».* Нават ліберальна-буржуазны «Вестник Европы» даў станоўчую ацэнку творчасці Лучыны. У артыкуле прафесара А. Пагодзіна «Белорусские поэты», змешчаным у «Вестнике Европы», у 1911 годзе чытаем: *«Янка Лучына ставіць на першым плане пытанні соцыяльнага становішча народа. Яго зборнік, што выйшаў у 1903 годзе (маецца на ўвазе другое выданне «Вязанкі», якое выдаў гурток студэнтаў - беларусаў у Пецербургу), з'яўляецца вестуном таго агульнага руху, які ў 1905 годзе выбухнуў грозным бурай над усёй Расіяй. І смутак, выкліканы народнай цемраю і беднасцю, і вера ў велізарныя сілы, заложаныя ў народзе адчуваюцца ў ім»...*

Сёння творчасць аўтара «Вязанкі» карыстаецца вялікай папулярнасцю на Беларусі. Яго вершы сістэматычна перавыдаюцца ў літаратурных зборніках, друкуюцца ў хрэстаматыях і школьных падручніках, вывучаюцца літаратуразнаўцамі. У 1952 годзе Дзяржаўнае Выдавецтва БССР выдала працу Сцяпана Майхровіча аб жыцці і творчасці Янкі Лучыны. У 1953 годзе гэтае самае выдавецтва выпусціла ў свет яго «Выбраныя творы», якія складаюцца з беларускіх і рускіх вершаў, а таксама з польскіх вершаў у перакладзе на беларускую мову. У апошняй частцы «Выбраных твораў» змяшчаюцца наследванні і перайманні з Людвіга Кандратовіча.

Мгр. МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ







*— Грамадзянін, тут нельга спаць.*
*— А я стораж...*

# „Дзівак"

*Сустрэў я нейкага чалавека каля парка. Той папрасіў у мяне закурыць і так мы пазнаёміліся. Гляджу, а ў яго хрызантэма сядзіць у пятліцы, але толькі ўвайшлі ў парк — ён зараз яе выкінуў.*

*— Чаму кідаеш такую цудоўную кветку?— спытаў я.*

*— А вось, калі ласка, бачыце дошку з напісам: «Кветак не рваць». Убачыўшы ў мяне хрызантэму маглі-б падазраваць... «Мая пашана» — сказаў раптам мой знаёмы зняўшы капялюш.*

*Разглядаюся, нідзе нікога не відаць... З кім ён гэта вітаўся? — здзівіўся я. А мой знаёмы кажа: — Перад намі, як бык, напісана: «Шануй зелень». Я жыву акуратна, па інструкцыі, што з гэтага выйдзе, калі не будзем прытрымлівацца карысных правіл.*

*Калі мы ўваходзілі ў рэстаран, мой знаёмы затрымаўся ў дзвярах, азіраючыся вакол сябе пад ногі.*

*— Вы што-небудзь шукаеце? — спытаў я спагадліва.*

*А той нічога не кажучы паказаў мне на дзвярах таблічку з напісам: «Не ўводзіць сабак».*

*— Ды вы-ж не маеце сабакі — засупярэчыў я.*

*— Зусім правільна, але чужая сабака можа ўбегчы за мною і тады, як я дакажу, што яна не мая?*

*Нядаўна мне прыйшлося ехаць у Варшаву. Матухна, ты мая, у вагоне, неспадзявана спатыкаю гэтага знаёмага. Поезд рушыў, мой знаёмы паглядзеў на сцяну купэ, выняў з кішэні запалкі і шпурнуў за акно.*

*Хвіліну падумаўшы разбуўся, скінуў шкарпэткі і таксама выкінуў за акно.*

*— Чаму вы гэта робіце? — спытаў я.*

*Знаёмы глянуў на мяне і паказаў на сцяну.*

*На сцяне было напісана: «Забараняецца перавозіць матэрыялы смуродныя і лёгкія на загарэнне».*

*Гэтак я сяджу сабе і думаю: «як мала ў нас засталося людзей, катовыя звяртаюць увагу на перасцярогі напамінаючыя аб парадку. Большасць—гэта такія людзі, якія чытаюць—«Не пляваць на падлогу» і плююць у твар бліжняга, а ўсе іншыя робяць так, як ім выгадней.*

*Напрыклад: пакупец мае права пераважыць набыты матэрыял, але ў краме няма кантрольнай вагі.*

*Спатыкаючыся часта з нарушэннем правіл выданых для карысці нашага грамадства і глядзячы на майго знаёмага дзівака, я стаў яго любіць за тое, што ён аж больш чым трэба прытрымліваецца ўсіх законаў.*

*Дзядзька Лявонь*

## Балбатун

*(Гумарэска)*

На кожнай нарадзе
на сходзе
Ён першы к трыбуне
падходзіць.
З уздымам закоціць
прамову:
— Даю я, таварыш
слова,
Што слова сваё
я стрымаю.
І ўсіх да таго
заклікаю!
І горача так
ён клянецца,
Аж пот ручаём
з яго льецца.
Бяда ў адным:
на рабоце
Ніколі не быў ён
у поце.

Кузьма ПЕРАЦ

## Добрая рэпутацыя

— Як вас называюць?

— Як хто хоча: жонка — распуснікам, бацька — гультаём, суседзі — зладзеям, толькі адзін адвакат хваліць.

## Кладаўшчык і мышы

— Чуеш, суседка, у нашым кааператыве зноў склалі пратакол, што мышы з'елі 10 кг сала.

— Гэтыя мышы толькі і выратоўваюць нашага кладаўшчыка.

## На шырокую нагу

— Чаму-ж ты купіў такія велізарныя чаравікі.

— Меншых не было, відаць ГС прывучвае нас жыць на шырокую нагу.

*Без слоў.*

# ЭПІГРАМЫ

СХОДЫ

Паложаны на абы то,
З каменных плітаў.

ВЯТРАК

Нячыстая сіла
Абламала крыла.

АБАРОГІ

У нас заўсёды
Не выходзяць з моды.

КОРАНЬ

# OJ, PAJDU JA ŁUHAM...

*Nia duża zwolna. Wyrazna.*







Oj,pajdu ja łuham, łuham,
Dzie moj miły areć płuham!
Oj,pajdu ja łuham, łuham!

Jon areć pole wałami,
A ja płacu usio slezami:
Jon areć pole wałami.

Zaniasu ja jamu ješci,
Ci nie skaże jon mnie sieści:
Zaniasu ja jamu ješci...

Zaniasu ja jamu pici,
Ci nia budzie hawaryci:
Zaniasu ja jamu pici...

I najeusia, i napiusia,
Sieu na płuh, dy zasmuciusia:
I najeusia, i napiusia.

Sto-ż ty, miły moj, dumaješ?
Na mianie nie pahledaješ? —
Sto-ż ty, miły moj, dumaješ?

— A ja siadżu, dy dumaju,
Sto błahuju żonku maju:
A ja sidżu dy dumaju...

Brau mianie ty u dzień, nia u nocy,
Dzie-ż tady swaje mieu wocy? —
Brau mianie ty u dzień, nia u nocy.

## Пасланне сялян з Патокі да Агафона

Парай, Агафоне,
Што маем зрабіці,
Каб маглі мы ў вёсцы
У кіно хадзіці.

У горад дабрацца —
Далёка і трудна.
Фільм бачыць на год раз,
Ой, нам па ім нудна.

Паслалі мы картку,
У якой сказалі,
Каб у гэтым годзе
Нас не забывалі.

Прыслалі адказ нам —
Чатыры старонкі.
Зыйшліся чытаць мы.
Мужыкі і жонкі:

«Нашы людзі урлёп маюць,
Нікуды не выязджаюць.
А ад жніўня кожны раз
Прыязджаць будзем да вас».

Чакалі, чакалі,
А кіно не відна
Ужо трэці месяц.
І стала нам крыўдна.

Вось у Тапаляны
Прыехала «Кіно»,
Пайшлі ўсе туды мы:
— Скажыце, хто вінны?

«Гэты месяц у Малынцы
Будзем высвятляці,
А Патока аж да снежня
Мусіць пачакаці».

Ці Ты, Агафоне,
Ня маеш прыладаў,
Каб прыехаць з фільмам
У нашую грамаду?

Мы былі-б удзячны
За Твае ўчынкі.
А з Патокі проста
З'ездзіш й да Малынкі.

Агафоне, братка,
Мусіш памятаці,
Што сяляне хочуць
Фільмы аглядаці.

*Пасланне ад імя сялян шле ў «Ніву»*
*МІКОЛА КРАЎЧУК*
*Патока*

## Колькі секунд

У 6 гадзін гэты гадзіннік праб'е 6 разоў. Па ручным гадзінніку я заўважыў, што ад першага прабою, да шостага прайшло роўна 30 секунд.

Цікава, колькі секунд пройдзе, калі гадзіннік будзе біць у поўдзень альбо ў поўнач — 12 разоў?



*Сярод чытачоў, якія да 30.XII г. г. прышлюць правільны адказ, будзе разлясавана 10 кніжных узнагарод.*

## ЛОЗУНГ ДНЯ

Перапішы вялікімі літарамі
і наляпі на плот, або сцяну.

**Кожны чалавек талковы**
**Вучыць дзяцей роднай мовы.**

# АГАФОН АБРОТКА КРУЦІЦЬ ГАЛАВОЮ

Словы — ВІНЦУК ГРАБОВІЧ Рысункі — АГЛАЯ АРТЫСЕВІЧ




*Недалёка ля Саколкі*
*Раслі прыгажуні-ёлкі.*
*Раз вячэрняю парою*
*Прышло двух дзядзькоў з пілою.*

*Пайзірайцесь, цераз ночку*
*Асталісь адны пянёчкі.*
*Стаіць ляснік, плача з жалю.*
*Але тут прышла Наталля.*

*Усё ляснíку расказала,*
*Прывяла і паказала.*
*Гэтак кожны год бывае*
*І ніхто іх не лапае.*

*У горадзе перад святам*
*Елачкі без асігнатаў.*
*Шпікулянцкая прадажа.*
*Ну, а што-ж лясная стража?*